№1 (1564)
Пятніца, 3 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, снег, мокры снег, па поўначы моцны снег, мяцеліца, на дарогах галалёдзіца, па паўднёвай палавіне ападкі, галалёд, туман. Вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Брэсце — 0...+2, Гродне — каля 0, Мінску — -1...-3, Гомелі — -2...-4, Магілёве -3...-5, Віцебску — -5...-7.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, месцамі мяцеліца, на дарогах галалёдзіца. Вецер паўночны з пераходам на ўсходні, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 4-га на працягу сутак -4...-9, па паўночным захадзе да -14; 5-га ўначы -10...-15, пры праясненнях да -20, удзень -6...-11, на поўдні -1...-5.



*Васіль БЫКАЎ:*

## У Празе я працую і лячуся



У сувязі з відавочна тэндэнцыйнымі паведамленнямі некаторых расійскіх СМІ, у прыватнасці, газеты "Известия", з выпадку майго пераезду ў Прагу хачу заявіць, што я не прасіў у чэшскага ўрада або прэзідэнта Вацлава Гавела палітычнага прытулку і не меў намеру яго атрымаць.

Мая просьба заключалася ў прадастаўленні мне і маёй жонцы права на больш-менш працяглае пражыванне ў Чэхіі, неабходнае для літаратурнай працы і лячэння як хроніку-лёгачніку. Такое права я і атрымаў у снежні 2002 года, сапраўды, пры садзеянні прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі.

Спроба некаторых СМІ ператварыць гэты факт, увогуле звычайны для цяперашніх часоў, у палітычную акцыю, на мой погляд, з'яўляецца правакацыйнай і варта асуджэння.

**Васіль БЫКАЎ,**
**грамадзянін Рэспублікі Беларусь.**

# АБСЕ вяртаецца ў Беларусь

*За дзень да Новага года ў Вене, дзе знаходзіцца штаб-кватэра АБСЕ, было падпісана пагадненне паміж Пастаянным саветам АБСЕ і беларускімі ўладамі. Згодна з ім 31 снежня 2002 года спыняецца існаванне Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі, а з 1 студзеня 2003 года ў Мінску адкрываецца офіс гэтай міжнароднай арганізацыі.*

Беларускія ўлады распачалі вялікую прапагандысцкую кампанію, каб даказаць, што вынік венскіх дамоў — вялікі поспех менавіта беларускага боку. У прыватнасці, памочнік Аляксандра Лукашэнкі Ігар Ляшчэня назваў падпісанае пагадненне "фактычным прызнаннем АБСЕ правільнасці прэтэнзій беларускага боку да КНГ", да "яе дэструктыўных метадаў і палітычных сімпатый, якія ўрэшце прывялі да ўмяшання ва ўнутраныя справы Беларусі". Калі ж адысці ад гэтай палітычнай траскатні, дык высвятляецца, што беларускія ўлады лічаць важнымі для сябе наступныя вынікі венскіх пагадненняў.

**1.** Цяпер замест КНГ АБСЕ ў Мінску будзе працаваць офіс АБСЕ. Знайсці розніцу ў гэтым даволі цяжка. Гэта прыкладна тое ж самае, калі я буду сцвярджаць, што газету "Народная воля" робіць рэдакцыя ці творчы рэдакцыйны калектыў. І так, і так будзе правільна. Газета як выходзіла, так і будзе выходзіць. Так і з АБСЕ. Гэта арганізацыя як прысутнічала ў Мінску, так і будзе прысутнічаць.

**2.** Цяпер штогод офіс АБСЕ мусіць будзе працягваць свае паўнамоцтвы па ўзгадненні з беларускім бокам. А мандат КНГ АБСЕ гэтага не прадугледжваў. На самай справе цяпер беларускія ўлады нарэшце выправілі сваю памылку.

Практыка сведчыць, што ў 99 выпадкаў са 100 тэрмін дзеяння місіі АБСЕ абгаворваецца ў падпісаных дакументах. У 1997 годзе, калі падпісваліся дамовы, беларуская дыпламатыя паказала свой нізкі прафесійны ўзровень. Тагачасны міністр Іван Антановіч, якога за спінай з усмешкай называлі не міністрам замежных спраў, а міністрам стварэння іміджу Аляксандра Лукашэнкі на Захадзе, пусціў гэтую справу на самацёк.

Вось і атрымалася, што тады пра тэрмін дзеяння КНГ нічога не было засведчана. Для параўнання — 31 снежня мінулага года спыніла працу і місія АБСЕ ў Чэчні. І не таму, што там нешта кардынальна змянілася. Проста расійскія дыпламаты спрацавалі куды больш прафесійна, чым іх беларускія калегі і абгаварылі тэрмін дзеяння місіі.

Здзіўляцца таму няма чаго, калі мы ўзгадаем, што паўнамоцным прадстаўніком у АБСЕ з'яўляецца прафесар... фізікі Віктар Гайсёнак. Зусім не выпадкова для падтрымкі беларускай дэлегацыі ў Вене быў падключаны памочнік Лукашэнкі па міжнародных пытаннях Ігар Ляшчэня.

**3.** І, нарэшце, самае галоўнае. Улады кажуць, што офіс АБСЕ не будзе займацца палітыкай. На самай справе новы мандат офіса прадугледжвае, як і раней, дапамагаць беларускім уладам у далейшай пабудове дэмакратычных інстытутаў, забяспечваць вяршэнства закона і дапамагаць у арганізацыі кантактаў з грамадскай супольнасцю ў Беларусі.

**Уладзімір ГЛОД.**



"Былы" офіс АБСЕ ў Мінску. Хутка ў ім будзе наваселле.

**Фота IREX/ProMedia.**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## З Новым годам, панове!

*Эпіграмы*

### Пытанне

*Ці Бог нас карае, ці чорт-ліхадзей.*
*Інакай — чаму нам усім абыякава,*
*Што столькі ў краіне*
*разумных людзей*
*І столькі дурноцішча*
*творыцца ўсякага?*

### Цяжкі выпадак

*Як быць з ворагамі — зразумела:*
*Трэба бой даваць — адкрыта, смела.*

*Як быць з халуямі — зноў жа ясна:*
*Клеймаваць пагардай усячасна.*

*А з дэбіламі як быць — не знаю:*
*Век пражыў, а досведу не маю.*

### Гэрцы на тэле-радыё

*Галасы, што акрыльвалі*
*душы мільёнаў,*
*Гэрцы сціраюць з катушак і плёнак*
*І заменьваюць іх галасамі*
*Творцаў, гэткіх жа мудрых,*
*як самі,*
*Пачуўшы якія, "удзячны" народ*
*Закладае, прабачце,*
*два пальцы ў рот.*

### Адказ на загад начальніцы не публікаваць мае артыкулы

*Мадам!*
*З разуменнем*
*І без аніякай прэтэнзіі,*
*Ува ўсіх выданнях,*
*Покуль яны не "почили в Бозе",*
*Я саступаю месца*
*Вашай геніяльнай паэзіі*
*І не менш геніяльнай прозе.*

*2002, снежань.*

## Прадпрымальнікі хочуць плаціць падаткі, а не штрафы

*Супрацьстаянне сталічных прадпрымальнікаў з уладамі выйшла на новы віток. Як сцвярджае прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, "убачыўшы, што праблема з устаноўкай касавых апаратаў не вырашаецца, а мясцовыя ўлады не ідуць на дыялог, нават не шукаюць кампрамісных рашэнняў праблемы, каля 300 прадпрымальнікаў сабраліся напярэдадні Новага года перад будынкам Мінгарвыканкама і перадалі яго старшыні Міхаілу Паўлаву петыцыю". Паўлаў у адказ звярнуўся ў пракуратуру.*

Адзін з арганізатараў акцыі актывіст АГП, сустаршыня грамадскага аб'яднання "Прыватная ўласнасць" Леанід Малахаў заявіў пра мінскіх чыноўнікаў наступнае: "Калі яны не ў стане вырашыць гэтую праблему, то грош ім цана! Навошта гэтыя людзі займаюць свае пасады? Мы хочам цывілізавана працаваць і плаціць падаткі, а не штрафы і хабар". На думку Малахава, "замест таго каб напаўняць бюджэт горада, чыноўнікі сваімі няправільнымі дзеяннямі яго спустошваюць".

Пасля таго як самы галоўны мінчанін звярнуўся ў пракуратуру, Малахаву патэлефанаваў участковы Цэнтральнага РАУС і паведаміў, што на яго афармлены прымусовы прывод у пракуратуру. Міліцыянер прапанаваў два варыянты: "Альбо сустрэцца ў аддзяленні міліцыі і адтуль разам паехаць у пракуратуру, альбо Малахава ў той жа вечар даставяць туды ў наручніках".

У рэшце рэшт, у пракуратуру Малахаў быў дастаўлены прымусова, але без наручнікаў. Пасля даволі доўгіх спрэчак супрацоўнік аддзела агульнага нагляду пракуратуры Юрый Карпіцкі прыйшоў да высновы, што "ў звароце прадпрымальнікаў няма падстаў для прыцягнення яго падпісантаў да адказнасці".

**Наталля ГАК.**

**ПУЛЬС**

## Беларускія палітыкі не чакаюць у 2003 годзе істотных змен

Сёлета ў Беларусі не адбудзецца істотных змяненняў ва ўнутранай і знешняй палітыцы, лічыць старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**. "Я думаю, стаўка будзе зроблена на захаванне татальнай манаполіі і татальнага кантролю над сітуацыяй, а значыць — над усімі сегментамі дзяржавы, уключаючы эканоміку і грамадзянскую супольнасць", — сказаў ён у інтэрв'ю БелаПАН.

Старшыня Партыі БНФ **Вінцук Вячорка** мяркуе, што ў 2003 годзе Расія працягне аказваць націск на Аляксандра Лукашэнку з мэтай прымусіць яго прадаць галоўныя беларускія прадпрыемствы расійскім алігархам. Гэтыя працэсы, на яго думку, будуць суправаджацца ростам пратэстных настрояў з боку значнай часткі жыхароў краіны, якія бачаць будучыню Беларусі ў Савеце Еўропы. Супрацьстаянне можа прывесці да магутнага сацыяльнага выбуху, лічыць Вячорка. Якіх-небудзь сур'ёзных змяненняў ва ўнутры- і знешнепалітычным курсе дзяржавы ён не чакае.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Святкуйма да 9 студзеня

Навагоднія святочныя мерапрыемствы, распачатыя ў Мінску ў навагоднюю ноч, будуць праходзіць да 9 студзеня.

7 студзеня на Кастрычніцкай плошчы адбудзецца калядны дзіцячы спектакль (з 12 да 16 гадзіны), а таксама маладзёжная забаўляльная музычная праграма (з 17 да 21).

Акрамя гэтага, запланаваны шэраг спартыўных мерапрыемстваў. Так, 3 студзеня ў лясным масіве "Дражня" пройдзе адкрыты Кубак горада па лыжных гонках; 3—4 студзеня на крытым катку ў парку Горкага — Міжнародны маладзёжны навагодні турнір па хакеі; 5—7 студзеня на пляцоўцы ля Палаца спорту на праспекце Машэрава — чэмпіянат горада па канькабежным спорце, а 9 студзеня — дзіцячае спартыўнае свята "Добры дзень, Зімухна-Зіма".

**Лавінія АРЭШКА.**

## Астролаг Кудраўцава мяняе курс

*2003 год будзе для Беларусі вельмі разнастайным: адбудзецца змена палітычнага курсу і якасна зменіцца ўзровень жыцця беларусаў. Такі прагноз зрабіла ў інтэрв'ю БелаПАН вядомы беларускі астролаг Вераніка Кудраўцава.*

Яна сцвярджае, што ніякі год не ідзе ў параўнанне — па вастрыні і значэнні ў палітычным аспекце — з "паваротным" 2003-м. Разам з тым, зазначыла астролаг, падзеі ў Беларусі будуць развівацца па "аксамітавым варыянце", і ўся палітычная барацьба адбудзецца "за кулісамі".

Паводле слоў Кудраўцавай, капрызны і недысцыплінаваны нораў усходняга года Казы разам з няпростай эканамічнай сітуацыяй, магчымымі праблемамі з выплатамі заробкаў і пенсій прывядзе Беларусь вясной да "калейдаскопа перамяшчэнняў па ўладнай вертыкалі — адставак, судоў, мітуснёй з непрадуманымі новаўвядзеннямі і рэформамі".

Рэйтынг беларускага прэзідэнта, прагназіруе астролаг, пачне зніжацца ў сакавіку і дасягне найніжэйшага пункту ў другой палове красавіка — пачатку мая. Розныя касманамічныя паказчыкі, паводле слоў Кудраўцавай, сведчаць аб тым, што яшчэ да пачатку лета ў Беларусі можна будзе ўбачыць "цалкам новую якасць вярхоўнай улады". А бліжэй да сярэдзіны красавіка не ўдасца пазбегнуць скандалу з міжнароднымі структурамі і місіямі.

Самы прадукцыйны і спрыяльны час для Беларусі будзе ўлетку, з другой паловы чэрвеня да пачатку жніўня. Гэта, мяркуе Кудраўцава, будзе час росквіту шоу-бізнесу, маштабных імпрэзаў, спартыўных і культурных дасягненняў, поспеху ў бізнес-праектах і PR-акцыях.

У цэлым жа 2003 год, які ўзгадваецца ў старадаўніх тэкстах як пачатак новай эпохі Вадалея, стане этапным у тысячагадовай гісторыі свету, сцвярджае Вераніка Кудраўцава. "Мы зараз стаім на парозе фарміравання новага ідэалагічнага кірунку, які зможа даць сусветную рэлігію новага тыпу, якая будзе фарміраваць глыбіннае разуменне патрыятызму і адчуванне роднасці з Космасам", — сказала астролаг.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Зноў знішчаны крыжы ў Курапатах

У калядную ноч на 25 снежня адбыўся чарговы акт вандалізму ў Курапатах. Як бачна па шматлікіх слядах на снезе, на тэрыторыю Народнага мемарыяла заехала машына, з якой выгрузіліся некалькі асобаў з сабакамі. Варвары знішчылі і пашкодзілі больш за 20 крыжоў на Крыжовай алеі і непасрэдна на магілах пакутнікаў.

Былі паламаны таксама крыжы на Кальварыйскім пагорку мемарыяла, устаноўленыя ў кастрычніку 2001 г. беларусамі Віленшчыны. Шэраг крыжоў паламаны, вырваны з зямлі, кінуты далёка ад месца, дзе яны былі ўстаноўленыя людзьмі. Сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ прыходзілі ў Курапаты. Яны сабралі часткі паламаных крыжоў, паставілі некалькі з тых, што былі павалены на зямлю. У бліжэйшы час мы будзем рэстаўрыраваць пашкоджаныя крыжы.

Дзікая варварская акцыя адбываецца на тэрыторыі нацыянальнай святыні ўжо ў каторы раз. Але даўно ўжо злачынства не было такім маштабным.



Сакратар Управы Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ сп. Алесь Чахольскі звярнуўся ў РУУС Мінскага раёна з заявай на ўзбуджэнне крымінальнай справы па факце акту вандалізму на тэрыторыі Народнага мемарыяла ў Курапатах. На тэрыторыю мемарыяла выязджала аператыўна-следчая група, якая склала пратакол агляду месца злачынства.

**Прэс-служба Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

*Владимир НАУМОВ:*

# «Я остаюсь при своем мнении»

*Ради встречи с журналистами министр внутренних дел Владимир Наумов даже пожертвовал обедом.*

*Сегодня Владимир Владимирович — один из немногих министров, который регулярно приходит в Национальный пресс-центр и свободно отвечает абсолютно на все вопросы.*

*Вот о чем спрашивали генерал-майора на последней пресс-конференции.*

**— Владимир Владимирович, недавно Совет безопасности завершил масштабную проверку Министерства внутренних дел. Расскажите, пожалуйста, о ее результатах.**

— Проверка МВД длилась четыре месяца. В январе у главы государства состоится совещание по результатам данной проверки.

В принципе, достаточно много было выявлено наших недоработок по тем или иным направлениям. Мы как бы устранили их... Хотя по некоторым вопросам все же остались при своем мнении. По отдельным направлениям у нас есть свое собственное мнение, которое, может быть, не совпадает с мнением проверяющих. Но в целом, если оценивать результаты проведенной работы, проверка дала достаточно положительный эффект. Не всегда, может быть, на какие-то вещи обращаешь внимание так, как это делает посторонний человек. И в общем лично я результатами проверки очень доволен.

**— Не могли бы Вы уточнить, по каким именно вопросам министр остался при своем мнении?**

— Это касается подготовки кадров. Я хотел бы сохранить свое мнение и в вопросах организационно-штатного построения и разаттестования тех категорий сотрудников, которые напрямую не заняты оперативно-служебной деятельностью. Мое мнение по этим вопросам не всегда совпадало с мнением проверяющих. Но это моя субъективная оценка. Может быть, она не самая правильная. Думаю, все выяснится в ходе обсуждения этих и других вопросов на совещании у главы государства.

**— Расскажите, пожалуйста, о судьбе вашего заместителя Леонида Глуховского. Как известно, несколько месяцев назад его временно отстранили от должности якобы из-за того, что он лоббировал интересы некоторых фирм, связанных с целлюлозно-бумажной промышленностью...**

— Проверка по этому вопросу уже закончилась. Но генерал-майор милиции Глуховский по-прежнему не приступает к исполнению служебных обязанностей, так как ситуация с целлюлозно-бумажной промышленностью в ближайшее время будет рассматриваться на совещании у президента. Если в ходе этого разбирательства докажут, что все-таки имели место факты лоббирования тех или иных вопросов, то Глуховский, наверное, будет отстранен... Что касается лично моей точки зрения по этому вопросу, то, может быть, Глуховский действительно старался где-то помочь тому или иному предприятию, что, наверное, для сотрудника правоохранительных органов не всегда правильно. Но я думаю, что он не имел при этом никакой личной корысти.



**— Значит, при удачном стечении обстоятельств Вы сможете с ним работать дальше?**

— Конечно. А для Глуховского и других это будет хорошая наука.

**— Вы можете подтвердить или опровергнуть информацию о том, что в изоляторе №1 у некоторых сидельцев были обнаружены работающие мобильные телефоны, и когда сделали распечатку звонков, выяснилось, что эти люди общались даже с членами правительства?**

— Я могу подтвердить информацию, что такие факты действительно имели место. Но там не фигурировал ни один член правительства. Это касается криминальных дел, когда адвокаты, злоупотребляя своим служебным положением, приходят работать с подследственным и дают ему возможность пользоваться своим сотовым телефоном. У нас было несколько подобных фактов. Виновные наказаны...

**— Владимир Владимирович, есть информация, что на сегодняшний день около миллиарда долга по внутренним войскам. Как Вы думаете решать эту проблему?**

— Внутренним войскам надо чуть скромнее жить. Потому что вся эта задолженность, как и у многих, связана с энергоносителями и коммунальными услугами. Сейчас произошла корректировка бюджета. Когда средства выделят, мы погасим задолженность, но мне хотелось бы, чтобы все сотрудники органов внутренних дел и внутренние войска в том числе, более бережно относились к государственным средствам. Впрочем, нам сегодня, как и всем, всегда чуть-чуть чего-то не хватает.

**— Что Вы можете нового сказать о расследовании громких исчезновений?**

— Для меня никогда не было "громких" и "тихих" дел. Любое преступление требует своего расследования и разбирательства. Планово идет работа и по расследованию дел Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского.

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото IREX/ProMedia.**

### К сведению

*В минувшем году органами внутренних дел зарегистрировано порядка 130 тысяч преступлений. В 2001 году аналогичный показатель был ниже примерно на 18 процентов. Такое положение дел Владимир Наумов объясняет в основном ужесточением требований к порядку приема, регистрации и разрешения заявлений от граждан.*

*По словам министра внутренних дел, за десять лет остались нераскрытыми более 380 тысяч преступлений, из них — 1050 убийств и порядка 2000 тяжких телесных повреждений. Буквально пару недель назад руководство МВД приняло решение о создании в структуре уголовного розыска подразделения, которое будет специализироваться на раскрытии преступлений прошлых лет.*

## А інвалід усё чакае

Яшчэ ў сакавіку мінулага года інвалід Вялікай Айчыннай вайны Мікалай Плюшчыкаў з пасёлка Коханава Талачынскага раёна заказаў, згодна з медыцынскімі рэкамендацыямі, спецыяльны абутак у Віцебскай артапедычнай майстэрні. Але вось і новы год пачаўся, а майстэрня заказ так і не выканала.

Аказваецца, адзінае на ўсю вобласць прадпрыемства па вырабе артапедычнага абутку не можа дзейнічаць з-за адсутнасці бюджэтнага фінансавання. З гэтай прычыны ўсе заказы 2002 года перанесены на новы, 2003 год. Так што невядома, ці дачакаецца Мікалай Плюшчыкаў выратавальнага абутку. Хутчэй за ўсё яму давядзецца кульгаць, пакутуючы ад болю, да смерці.

У бюджэце Беларусі на 2003 год прадугледжаны велізарныя выдаткаванні на міліцыю, ахову прэзідэнта і многія іншыя пазіцыі. Персанальныя патрэбы інвалідаў вайны, якія змагаліся за мірнае жыццё, у бюджэце не прадугледжаны. Утрыманне Віцебскай артапедычнай майстэрні — справа мясцовых улад. А ў абласным бюджэце на абутак для інвалідаў таксама грошай няма.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Крыша из подполковников

В конце прошлого года газета "Полоцкий вестник" опубликовала "Монолог Владимира Захарова" — одного из ведущих бизнесменов этого города, владельца 12 магазинов, ресторана, кафе, винзавода, рынка. Он рассказывает о коррупции в Полоцком межрайонном отделе по борьбе с организованной преступностью и коррупцией. В своем монологе бизнесмен приводит конкретные факты поборов в рамках так называемой "милицейской крыши".

О задержании руководителя этой структуры Александра Васёхи и его заместителя Виктора Лузкина, "Народная воля" сообщила 17.12.2002 года ў №251.

На предновогодней пресс-конференции министра внутренних дел В.Наумова я попросил прокомментировать данное неординарное событие. Владимир Владимирович подтвердил факт задержания двух милицейских подполковников и предъявлении им обвинения в злоупотреблении властью (ст.424 УК) и получении взятки (ст.430 УК). В настоящее время офицеры выпущены из СИЗО под подписку о невыезде и отстранены до решения суда от занимаемых должностей.

**Валерий ЩУКИН.**

Дарога Навагрудак—Іўе.

Фота IREX/ProMedia.

## «Белвест» на раздарожжы

*Беларуска-германскае абутковае СП "Белвест" напярэдадні Новага года адзначыла этапную дату на сваім шляху — выпуск 25-мільённай пары абутку.*

"Белвест" быў першым у Беларусі і адным з трох у СССР прадпрыемстваў, заснаваных 13 гадоў назад нямецкай фірмай "Саламандэр", якія пачыналі працаваць на базе ўжо дзеючых абутковых вытворчасцей. Каля двух дзесяткаў год віцебскае СП працавала ўвогуле паспяхова, хоць і не без праблем. Зараз перад прадпрыемствам узнікла цяжкая задача.

Галоўны партнёр — нямецкая фірма "Саламандэр" — нечакана змяніла статус, увайшоўшы ў склад буйнога энергетычнага канцэрна, што прымусіла яе адмовіцца ад вытворчасці абутку. У адказ на гэта "Белвесту" прыйшлося выкупіць сваю частку сумеснай маёмасці.

Каб захаваць сваю абутковую вытворчасць і рабочыя месцы, "Белвесту" трэба зрабіць выбар: або прадаць нейкаму новаму партнёру сваю долю маёмасці, або стаць унітарным прадпрыемствам. Генеральны дырэктар СП Ларыса Кузняцова лічыць, што больш выгадны першы варыянт, бо ён дае фабрыцы больш шырокія магчымасці для аснашчэння цэхаў высокапрадукцыйным абсталяваннем і для закупкі за мяжой дабротных матэрыялаў.

Такім чынам, "Белвесту" трэба знайсці замест "Саламандэр" такога іншаземнага пакупніка сваіх актываў, які б узяў на сябе істотную долю маёмасці ў сумесным прадпрыемстве і дапамог бы прасоўваць віцебскі абутак на рынкі Захаду.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

РЭТРАСПЕКТЫВА

# Ліст 53-х

*Мы ведаем, што адбывалася 200—300 гадоў таму, але не памятаем, якія падзеі мелі месца 15—20—30 гадоў назад. А для таго, каб бліжэйшая рэтраспектыва ўвайшла ў гісторыю, трэба засведчыць яе не толькі архіўным чынам, але і на старонках перыёдыкі.*

*Вось чаму "Народная воля" вырашыла адкрыць новую рубрыку — "Рэтраспектыва". Сёння вядомы паэт Анатоль Вярцінскі расказвае пра тое, як 53 пісьменнікі адстойвалі гонар Васіля Быкава.*

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

Яго копія ўжо даўно зжаўцела. А, здаецца, пісалі ўчора. Пісалі ліст на імя сакратара ЦК КПБ С.А.Пілатовіча.

З пісьма відаць, чым, якой нагодай ён выкліканы. Праўда, не відаць, не адлюстраваліся ўсе абвінавачванні ў адрас Васіля Быкава. Накшталт: "Иногда доходит до святотатства, до надругательства над тем, перед чем следовало бы благосклонно снять шапку", "Неправильно показывает отношение солдат и офицеров к пленным немцам", "Типичнейший псевдогуманизм, заимствованный у западных писателей пацифистского толка" і г.д.

Адчытаў ананімны рэдакцыйны крытык і Саюз пісьменнікаў з яго выданнямі, якія, маўляў, не праявілі належную пільнасць, і Інстытут літаратуры, дзе як быццам бы "принципиальный разговор подменили воскурением фамиама автору и защитой его серьезных ошибок". (Маецца на ўвазе, удакладню, абмеркаванне ў акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы аповесці "Мёртвым не баліць". Ніякага фіміяму не было, але твору сапраўды была дадзена высокая прафесійная ацэнка. Гэтак жа, дарэчы, як і ў рэцэнзіі, надрукаванай тады ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва".)

Артыкул "Вопреки правде жизни", некалькі цытат з якога я прывёў, з'явіўся ў газеце "Советская Белоруссия" 8 красавіка 1966 года. У прыродзе назіралася вясновае абуджэнне. У грамадскім жыцці канчалася хрушчоўская адліга. Ды яшчэ не паспела яўна надысці брэжнеўская слота. І яшчэ жыло ў свядомасці шмат каго з нас, "шасцідзесятнікаў", спадзяванне на далейшае абнаўленне грамадства, на пазбаўленне ад праяў таго самага "штодзённага сталінізму", пра які нядаўна грунтоўна распавёў у сваіх нататках на старонках "Народнай волі" Аляксандр Сіліч.

Прыйшло рашэнне — абараніць Васіля Быкава, даць адпор злосным, дэмагагічным нападкам на яго творчасць. Як, якім чынам? Звярнуцца з адпаведным лістом у вышэйшую інстанцыю — у ЦК КПБ.

Ліст пісалі мы з Генадзем Бураўкіным. Не без цяжкасцяў. Без адпаведнага вопыту. Адзін варыянт, другі... Але напісаць — было толькі паўсправы. Трэба ж было яшчэ сабраць подпісы. У тым ліку настаўнікаў, "кітоў". Прыйшоў на дапамогу Ніл Гілевіч, які быў бліжэйшым да іх — па творчым багажы і па нарачанскім лецішчы.

Хадзілі ўтрох па рэдакцыях ды кватэрах, паказвалі ліст-пратэст. Распісаліся пад ім Міхась Лынькоў, Янка Брыль, Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў... Куляшоў, памятаю, прачытаў, паглядзеў на нас і, прызнаўшыся, што меў намер пайсці назаўтра да Пятра Міронавіча па адной асабістай справе, рашуча махнуў рукой: "Давайце — падпішу! Быкава трэба падтрымаць!"

Узнікалі і іншыя сітуацыі. Адзін сталы празаік, рэдактар часопіса стаў адгаворваць нас: "Не трэба, хлопцы, гэта рабіць. Пашкадуйце свае маладыя чупрыны". Другі таксама запярэчыў, матывуючы сваю пазіцыю тым, што пісьменнік павінен стаяць па-філасофску над схваткай. Але назаўтра пазваніў ранічкай мне ў дзверы і выказаў жаданне паставіць подпіс.

Была спроба перахапіць ліст, не дапусціць, каб ён трапіў у канцылярыю ЦК. Але... Прынцыповы калектыўны зварот (пад лістом стаяла больш як пяцьдзесят подпісаў) адбыўся. Акт падтрымкі таварыша па пяры, абароны яго чалавечай і мастакоўскай годнасці здзейсніўся.

Трэба яшчэ згадаць і наступны момант.

У артыкуле "Вопреки правде жизни" адзін абзац пачынаўся словамі: "В преддверии республиканского съезда писателей хочется спросить..." і г.д. Сапраўды, неўзабаве, 13—14 мая 1966 года, адбыўся чарговы, пяты па ліку з'езд беларускіх пісьменнікаў. Памятны. Вызначаўся як агульнай атмасферай, духам свабодамыснасці і крытычнага стаўлення да працы тагачаснага кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі, так і асобнымі выступленнямі. Асабліва прамовамі: таго ж Васіля Быкава — у абарону права пісьменніка на крытычнае асэнсаванне жыцця і Ніла Гілевіча — у абарону роднай мовы, "мовы сваіх бацькоў, мовы сваёй зямлі".

Аддаўшы належнае так званым "ідэалагічным рупліўцам", В.Быкаў сказаў у заключэнне: "Яшчэ хачу падзякаваць шмат якім пісьменнікам, што праявілі ўласную мужнасць і пісьменніцкую салідарнасць з поваду вядомага выпаду ў мой адрас. Пакуль мы будзем з'яднаныя па важнейшых пытаннях нашага жыцця і будзем гаварыць пра тое адкрыта, беларускі народ можа спадзявацца на добры лёс сваёй літаратуры".

Ліст-пратэст "пяцідзесяці трох" адыграў сваю ролю.

На двары стаяла вясна 1966-га.

Да "пражскай вясны" заставаліся два гады. Ды яшчэ цэлых дваццаць гадоў заставалася да гарбачоўскай перабудовы-галоснасці.

*Снежань 2002 г.*

*Сакратару ЦК КПБ*
*тав. С.А.ПІЛАТОВІЧУ*

Паважаны Станіслаў Антонавіч!

У газеце "Советская Белоруссия" ад 8 красавіка г.г. змешчаны рэдакцыйны артыкул "Вопреки правде жизни", дзе падвяргаецца крытыцы творчасць Васіля Быкава. Многае ў гэтым артыкуле выклікае, мякка кажучы, недаўменне, і мы, літаратары, камуністы і беспартыйныя, лічым неабходным падзяліцца з Вамі сваімі думкамі.

Якой нагодай, якой патрэбай выклікана такое паспешнае і нечаканае для многіх пісьменнікаў і чытачоў газеты з'яўленне рэдакцыйнага артыкула? Жаданнем прарэцэнзаваць новую аповесць В.Быкава? Але ж артыкул спрабуе разгледзець усю творчасць празаіка. Спробай даць ацэнку некаторым тэндэнцыям у адлюстраванні тэмы Вялікай Айчыннай вайны? Але ж гутарка ідзе пра творчасць толькі аднаго пісьменніка.

Недаўменне яшчэ больш расце, калі чытаеш, як "Советская Белоруссия" папракае Саюз пісьменнікаў і яго літаратурныя выданні ў тым, што яны "столь **долго** не замечали, что В.Быков постепенно начинает отходить от жизненной правды". Няўжо сапраўды адзін з вядомых і любімых чытачамі беларускіх пісьменнікаў з кожным новым творам усё больш адыходзіў ад жыццёвай праўды? Калі гэта, дапусцім, было, то чаму ж "Советская Белоруссия" — орган Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі — маўчала? Чаму яна не папярэдзіла своечасова тыя зрывы, якія, на думку газеты, вымагаюць цяпер суровага асуджэння? На гэтыя, на наш погляд, законныя пытанні адказу ў артыкуле мы не знайшлі.

Не можа не ўстрывожыць і здзівіць тон артыкула — грубы, катэгарычны, "праработачны". Не клапоцячыся аб аргументацыі, аб доказах, В.Быкава абвінавачваюць у тым, што ён сваімі творамі "Не способствует воспитанию у народа любви и уважения к Советской Армии, оскорбляет лучшие патриотические чувства наших людей...". Як лёгка грамадзяніну, пісьменніку, былому воіну прыклейваецца страшны "ярлык"! Як быццам мы не ведаем, з якім болем і веданнем справы піша пра салдат мінулай вайны — мёртвых і жывых — В.Быкаў, як умее ён у сваіх творах уславіць сапраўдны гераізм, сапраўдную мужнасць і адданасць савецкага чалавека ў яго змаганні з фашызмам. Забыта, што "Трэцяя ракета" выстаўлялася на Ленінскую прэмію, што літаратурная (і не толькі літаратурная) грамадскасць лічаць яе адным з лепшых твораў савецкай літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну, што яна перакладзена на мовы большасці краін сацыялістычнага лагера...

Выклікае недаўменне і здзіўленне, што ў артыкуле сустракаюцца і перакручванне, і падтасоўка цытат.

Вось чытаем, што "по утверждению одного из персонажей повести "Мертвым не болит" Гарбатюка, советские воины совершали подвиги не из чувства патриотизма, высокой сознательности, беспредельной преданности родине, а в принудительном порядке, под страхом смерти...". Тут жа прызнанне: "слова эти вложены в уста отрицательного персонажа". І тым не менш словы адмоўнага персанажа, на якога скіраваны ўвесь гнеў аповесці, ставяць у віну В.Быкаву. А Быкаў жа бязлітасна выкрывае на працягу ўсяго твора людзей тыпу Гарбацюка—Сахно, выкрывае іх "філасофію", іх гадзенькую душу. У чытача вырастае нянавісць да Сахно і Гарбацюка, да падобных да іх — і мы лічым, што гэта добра.

Далей у артыкуле чытаем: "Если верить В.Быкову, то победу обеспечило безропотное меньшинство "фронтовых трудяг", а все остальные имели к ней лишь косвенное отношение...". І — каб праілюстраваць гэты сумніцельны вывад, аўтары артыкула прыводзяць цытату: "Разве у нас мало мужчин? На **передовой**, в тылах, в стране вообще?.." і г.д. Цытата гэтая вырвана "з мясам", без уліку ўсяго "арганізма" твора. У гэтым лёгка пераконваешся, калі адкрываеш тую старонку часопіса, дзе расказваецца пра гібель медсястры Каці і пра тое, як перажывае гэтую страту Васілевіч. "А мне ўжо, бадай, нічога і не страшна. Смерць Каці мяне **апаламіла**... Смерць на вайне — рэч дужа звычайная. Але чаму памірае гэтая дзяўчына? Хто яе паслаў на вайну і чаму? Хіба сама папрасілася? Але што яна ведае аб ёй?.." І ўжо далей ідуць словы, якія прыводзяцца ў артыкуле "Вопреки правде жизни". Як бачым, словы Васілевіча народжаны ў пэўнай абстаноўцы, у час душэўнага ўзрушэння, калі герою цяжка змірыцца са стратаю адзінай сярод воінаў жанчыны. Мы думаем, што гэта ўпаўне зразумела і не ўлічваць гэтых момантаў нельга...

Мы разумеем, што тут зусім не да месца даваць поўны аналіз артыкула, шырока спрачацца з ім — ды і напісаны артыкул у манеры, якая не спрыяе творчаму абмену думкамі. Мы толькі хацелі б адзначыць, што ў многіх месцах артыкул напісаны без разумення спецыфікі мастацкага твора, без павагі да законаў літаратурнай творчасці. Вось прыклад. Аўтары артыкула папракаюць Быкава ў тым, што ён спрабуе матываваць здраду Пшанічнага (аповесць "Жураўліны крык") пэўнымі жыццёвымі абставінамі, што ён аднёс яе "отнюдь не на его личный счет". Папрок не можа не здзіўляць, бо глыбока ўскрываць прычыны ўчынкаў, жыццёвых з'яў, псіхалогію героя — патрабаванне да кожнага твора, закон творчасці.

Аўтары артыкула гавораць аб "единственной и неделимой правде о ратном подвиге народа". Але ў чым заключаецца гэтая праўда, у артыкуле чамусьці не сказана. А гэтым не акрэслены крытэрыі, з якімі падыходзіць да творчасці В.Быкава. Бо Быкаў не бярэ на сябе задачу сказаць усю праўду пра вайну (ды аднаму пісьменніку гэта, відаць, і не пад сілу). Ён хоча сказаць праўду пра салдата на вайне, які трапляе ў трагічныя абставіны. І мы лічым, што на гэтым шляху ў Быкава ёсць значныя поспехі.

Артыкул "Вопреки правде жизни" не пераканаў нас у тым, што В.Быкавым быццам бы "принесены в жертву и коммунистическая идейность, и сама правда о войне". Абвінавачванне абсурднае, палітычнае. Мы перакананы, што Быкаў такіх абвінавачванняў не заслужыў, што гэта абражае грамадзянскія пачуцці людзей, якія палюбілі творчасць таленавітага пісьменніка.

Можна і трэба спрачацца аб мастацкіх творах. Наіўна лічыць, што ў пісьменнікаў, нават таленавітых, не бывае няўдач. Не застрахаваны ад няўдач і памылак і В.Быкаў. Але прыпісваць пісьменніку на падставе яго нейкіх мастацкіх пралікаў палітычны крымінал — недаравальна. Такога ў наш час не павінна быць.

Безапеляцыйны тон, палітычныя абвінавачванні, ператрымкі ў артыкуле "Вопреки правде жизни" з'яўляюцца своеасаблівым рэцыдывам вульгарызатарскай крытыкі. І гэта тым больш відаць, калі параўнаць яго з артыкулам "Правда о великой войне" ў газеце "Правда" ад 17 красавіка г.г., дзе гаворка пра творчасць В.Быкава ідзе спакойная, з павагай да яго таленту, з прызнаннем яго заслуг. Памятаючы ленінскія словы аб тым, што талент пісьменніка трэба берагчы, лічачы Васіля Быкава, безумоўна, таленавітым пісьменнікам, мы не можам пагадзіцца з рэдакцыйным артыкулам "Советской Белоруссии", які ставіць пад сумненне творчасць празаіка, не можам прыняць яго грубы, нетактоўны тон.

**(Пад пісьмом — 53 подпісы.)**

ЗАДУМАЕМСЯ...

# Хотя Лукашенко — не Сталин...

***Интерес к выборам в местные Советы проявляет не только демократическая оппозиция. Судя по всему, власть изо всех сил стремится заполнить Советы своими ставленниками. У меня складывается впечатление, что подконтрольные А.Лукашенко структуры начали крестовый поход за депутатскими мандатами.***

На пленуме Федерации профсоюзов ее новое руководство заявило о желании активно участвовать в выборах в местные Советы. По словам господина Козика, профсоюзы намереваются завоевать 20% депутатских мандатов. Является ли намерение верхушки профсоюзов свидетельством ее самостоятельности? На мой взгляд нет, еще раз нет.

Они играют по заданному сценарию, поскольку просто вмонтированы в государственную систему. Помните, как во второй половине сентября на внеочередном съезде ФПБ Александр Лукашенко заявил, что профсоюзы могут быть четко вмонтированы в систему государственной власти. Сказано ясно, четче не придумаешь. Только, вероятно, Лукашенко проговорился. ФПБ не может быть, а уже вмонтировалась в эту систему. Федерация сейчас помогает Лукашенко реализовывать его сценарий, по которому ему остается опереться на третью опору власти — местные Советы. На том же внеочередном съезде ФПБ Лукашенко конкретно заявил, что, проводя политику, власть намерена опираться на три опоры — местные Советы, объединенную молодежную организацию патриотического толка (Белорусский республиканский союз молодежи) и обновляющиеся профсоюзы.

Фактически нынешние профсоюзы стали не третьей, а первой опорой. Тот же господин Козик заявил: "Профсоюзы не должны стегать правительство, так как не имеют на это право. Это право имеет в стране только один человек — президент". Мол, всяк сверчок знай свой шесток. Сейчас, я считаю, профсоюзы и в самом деле лишены прав и практически превратились в придаток государственной власти. С барского плеча им позволили возобновить безналичные перечисления профсоюзных взносов.

Неудивительно, что Лукашенко имеет намерение опираться на три опоры — профсоюзы, молодежную организацию и местные Советы. В этом он не нов. Такой же позиции в конце 20-х — начале 30-х годов придерживался Иосиф Сталин. Он заявил, что власть намерена опираться на молодежь, профсоюзы и местные Советы.

Лукашенко, выходит, идет по его следам. Но что из этого может получиться? И.Сталин оказался недовольным советскими профсоюзными руководителями Александром Шляпниковым, Сергеем Медведевым и их сотоварищами. В историю они вошли как лидеры рабочей оппозиции. Последовало обвинение в их излишней самостоятельности, создании оппозиции и возвеличении роли профсоюзов. Попытка профсоюзных рабочих деятелей, которые входили в ЦК ВКП (б), противостоять сталинскому деспотизму, не завершилась успехом. Все попали под ярлык "враги народа" и были репрессированы, а И.Сталин привел на руководящие места в профсоюзах своих людей. Профсоюз как самостоятельная организация был ликвидирован.

Рисуя политический портрет И.Сталина, доктор философских наук, профессор Дмитрий Волкогонов писал: "Сталин всегда верил в силу государственной машины и подозрительно взирал на малейшие проявления общественной самостоятельности. Любая попытка создания самой безобидной самодеятельной общественной организации, не предусмотренная инструкциями аппарата, расценивалась им как враждебное деяние". Ну а теперь перенесем эту кальку на политический портрет А.Лукашенко.

Пойдем дальше. В 30-е годы Иосифу Сталину стали мешать лидеры комсомола. Особенно тогда, когда они выступили против командно-бюрократического отношения власти к молодежи и обвинили карательные органы в незаконных репрессиях комсомольцев. Тогда и появились новые враги народа — молодые лидеры. Им сказали, мол, слишком много думаете о себе, выступаете в защиту врагов народа, пытаетесь оторваться от партии. И что же? Комсомольские вожаки Александр Косарев, Сергей Чаплин, Валентина Пикина и другие исчезли с политической арены. Большинство из них исчезли не только политически, но и физически. Их должности заняли преданные Иосифу Сталину люди.

Но вернемся к нашей ситуации. Не так давно произошло объединение двух молодежных организаций — БПСМ и БСМ. И что же? Почти везде первые места в новом обьединении позанимали функционеры БПСМ.

И.Сталин, в конце концов, подчинил себе и органы местного самоуправления, где всегда голосовало "за" около 100 процентов избирателей. А.Лукашенко осталось сделать один шаг по его подобию — взять под свое крылышко местные Советы, нашпиговав их своими людьми. И профсоюзы здесь как никогда кстати. Доведен план — взять 20% депутатских мандатов. Вероятно, что столько же своих членов должен провести и Белорусский республиканский союз молодежи. А дальше найдутся и другие подконтрольные власти организации, которые хотят тоже попасть в Советы.

Естественно, получение депутатского мандата зависит от голосов избирателей. Однако если учесть, что на выборах в Палату представителей избирательный процесс тотально контролировался властью, приходишь к неутешительным выводам. Ведь две опоры власти уже есть — нужна третья. И что будет, если демократы проиграют на выборах в местные Советы? Власть в лице Лукашенко получит третью опору. А тогда, как он предполагал на том же съезде ФПБ, может возникнуть и четвертая опора в виде сильных политических партий, которым будет доверять народ. Что, впрочем, означает политическое умирание демократических партий.

Конечно, А.Лукашенко — это не Сталин. Однако задуматься есть над чем.

**Александр СЕРДЮКОВ.**

Гродна ў навагоднія дні.

Фота IREX/ProMedia.

## Пра чэкі «Маёмасць»

Прэзідыум Савета міністраў ухваліў унясенне змяненняў у закон "Аб імянных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь" ад 6 ліпеня 1993 года. Новы законапраект прадугледжвае адмену кампенсацыі ўладальнікам нескарыстаных імянных прыватызацыйных чэкаў пасля заканчэння тэрміну іх абарачэння.

Выдача ІПЧ насельніцтву завяршылася 1 ліпеня 1997 года. З 7,8 млн. грамадзян, якія мелі права ўдзельнічаць у чэкавай прыватызацыі, чэкі атрымалі 4,9 млн. (агульная колькасць выда-дзеных чэкаў — 427,6 млн.). Астатнія або не звярталіся па іх, або не атрымалі ва ўстаноўлены заканадаўствам тэрмін. Па стане на 1 кастрычніка мінулага года з рахункаў грамадзян спісана 220,6 млн. чэкаў, ці крыху больш за палову ад колькасці выдадзеных. З іх па мэтавым прызначэнні — у абмен на прыватызуемую дзяржаўную маёмасць — выкарыстана 33,8 працэнта. У ліпені гэтага года тэрмін абарачэння ІПЧ быў працягнуты па 30 чэрвеня 2003 года.

Паводле разлікаў Міністэрства эканомікі, на 1 ліпеня 2003 года колькасць чэкаў, па якіх павінна выплачвацца кампенсацыя, можа скласці каля 199 млн. Зыходзячы з цяперашняга намінальнага кошту чэка, для выплаты кампенсацый спатрэбілася б каля 656,7 млрд. рублёў, а з улікам аплаты паслуг ААБ "Беларусбанк" — каля 670 млрд. Паколькі гэта запатрабуе значных бюджэтных сродкаў, Міністэрства фінансаў прапанавала адмяніць кампенсацыі за нескарыстаныя чэкі.

Урад двойчы (у 1999 і 2001 гадах) працягваў тэрмін абарачэння ІПЧ, аднак аналіз тэмпаў абмену чэкаў паказвае ўстойлівую тэндэнцыю да іх зніжэння.

Законапраект будзе прадстаўлены на разгляд прэзідэнту. У выпадку яго ўхвалы тэрмін абарачэння чэкаў плануецца працягнуць да 1 студзеня 2004 года.

**Вольга ПАЛОНСКАЯ,**
**БелаПАН.**

СИТУАЦИЯ

# Признают ли маму участницей войны в родной Беларуси?

Пишет Вам семья Шишко из г.Копыля Минской области. Обратиться к Вам заставляет чиновничья волокита.

Хотелось бы поведать историю нашей матери Надежды Михеевны Степаненко. Родилась она в 1921 году в Беларуси в д.Колтово Мстиславского района Могилевской области. В 1941 году закончила двухгодичную Мстиславскую школу медицинских сестер. С 1941 по 1945 год была участницей Великой Отечественной войны на 1-м Украинском фронте, оказывала помощь раненым в эвакогоспитале №428. Волею судьбы вышла замуж за украинского парня, с которым познакомилась в госпитале, и после войны жила в Украине, в г.Белая Церковь. Там похоронила мужа и сына. Ее трудовой медицинский стаж — 52 года.

В июне 2002 года мама перенесла обширный инсульт. Пришлось забрать ее к себе. Сейчас она инвалид 1-й группы, парализована и требует постоянного ухода. С трудом, но удалось ее прописать на постоянное место жительства в Республике Беларусь. Когда же дело коснулось оформления документов на получение ею пенсии как участника Великой Отечественной войны (об этом имеется свидетельство участника боевых действий, номерная орденская книжка, свидетельства о медалях, запись в трудовой книжке, военный билет, где все это подтверждается), во всех белорусских инстанциях нам отвечают: мол, удостоверение участника боевых действий, написанное на украинском языке, в Республике Беларусь... недействительно. А значит, льготами на получение пенсии как участнику ВОВ ей пользоваться не положено. Необходимо менять удостоверение на новый образец.

Отдаем должное военкомату — он сделал запрос на получение подтверждающих документов. Но, чтобы их получить, нужно ждать около шести месяцев. А дождется ли Надежда Михайловна при своем "богатырском" здоровье, что и на родине ее признают участницей ВОВ? И где же наш тот самый единый славянский народ, о котором вещают официальные СМИ, где дружба России, Украины и Беларуси, воевавших с одним врагом?

Кстати, на территории ближайшей южной соседки участник боевых действий имеет больше льгот, чем участник ВОВ. И не только "свой". Бывая ежегодно в Украине, мы при своих пенсионном удостоверении и удостоверении ликвидатора на ЧАЭС, выданных в Беларуси, пользовались льготами, к примеру, бесплатного проезда по стране. Нужны ли здесь комментарии?

Степаненко
Надежда
Михеевна
ЗА ХРАБРОСТЬ, СТОЙКОСТЬ И МУЖЕСТВО, ПРОЯВЛЕННЫЕ В БОРЬБЕ С НЕМЕЦКО-ФАШИСТСКИМИ ЗАХВАТЧИКАМИ, И В ОЗНАМЕНОВАНИЕ 40-ЛЕТИЯ ПОБЕДЫ СОВЕТСКОГО НАРОДА В ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЕ 1941—1945 ГОДОВ
УКАЗОМ ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО СОВЕТА СССР
марта 1985 г.
НАГРАЖДЕН ОРДЕНОМ
ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЫ
степени
Секретарь Президиума Верховного Совета СССР
№ ордена 1973904
з № 549204

Высылаем копии удостоверений участника боевых действий и номерного ордена Надежды Михайловны Степаненко.

**Семья ШИШКО из г.Копыля, постоянные подписчики газеты "Народная воля".**

**ОТ РЕДАКЦИИ.** Согласны с автором: хотя ситуация довольно сложная, в комментариях она вряд ли нуждается. Надеемся, инстанции, от которых это зависит, восстановят справедливость, и престарелая ныне защитница Отечества Надежда Степаненко получит, наконец, заслуженные ею пенсию и льготы.

## Злашчасны помнік

Нават пасля смерці не ведае спакою душа славутага віцебскага мастака Юрыя Пэна, які быў настаўнікам многіх вядомых жывапісцаў XX стагоддзя, у прыватнасці — Марка Шагала.

У 1937 годзе стары мастак быў забіты злачынцамі, якія, паводле афіцыйнай версіі, нібыта спакусіліся на ягоныя грошы. Па сутнасці, карыслівая мэта штурхае на злачынства і тых, хто разбурае помнік Ю.Пэну, пастаўлены на Старасямёнаўскіх могілках у Віцебску.

За апошнія 13 гадоў бюст з каляровага металу, устаноўлены на магіле мастака, тройчы знікаў з пастамента. У 1999 годзе міліцыі ўдалося знайсці вінаватых у крадзяжы бюста. Імі аказаліся мясцовыя падлеткі.

Другі раз, у 2000 годзе, зладзеі паспелі здаць помнік прыёмшчыку металалому, і бронзавы бюст знайшоўся ў Расіі. Пасля гэтага вырашылі замяніць бронзавы помнік копіяй, зробленай з алюмінію і бетону, але незадоўга да Новага года і гэты бюст знік, а пастамент аказаўся разламаным.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПЕЧАЛЬНО!

## *Александр ПОТУПА,*
## *президент Белорусского союза предпринимателей:*

*— Из всех государств СНГ Беларусь сегодня имеет наименьшую степень концентрации предприятий негосударственной формы собственности на 1 тысячу жителей — всего 2,8. Для сравнения: в России этот показатель равен 6, в США — 180. Беларусь — вообще единственное в Европе государство, где количество частных предприятий уменьшилось в 2002 году по сравнению с предыдущим годом.*

***А власть говорит о каком-то рынке! Смешно, не правда ли? А может, не смешно, а грустно? А может, плакать впору?! Раз количество частных предприятий не увеличивается, а уменьшается — значит, не уходим мы от советских колхозов, а возвращаемся в них. Хлебали пойло из общего корыта десятки лет — будем и дальше хлебать.***

***А жизнь такая короткая. И так хочется по-людски пожить.***

